# У З Д Ы М

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАГА АКТЫВУ НА ВЫГНАНЬНІ**

**M. Kobiako, 4234 Mapledale Ave. Cleveland 9, Ohio**

Год II — КРАСАВІК - ТРАВЕНЬ I964 — Нр.4





## ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

### Х Р Ы С Т О С   У В А С К Р О С !

У гэты ўрачысты і сьветлы Дзень Уваскрасеньня Хрыстовага вітаем усіх чытачоў, падпісчыкаў і сымпатыкаў нашага часапісу "Уздыму" і жадаем, каб Уваскросны Хрыстос, Бог наш, разьвееўшы цемру на зямлі, зазьяўшы сьвятлом божае ласкі і любоўі, стаўся сьвітаньнем новых надзеяў нашых і новых магчымасьцяў да злучэньня ў адну згодную брацкую сямю, дзеля славы божае, дзеля дабра ўласнага, дзеля дабра ўсяго беларускага народу й шматпакутнае Маці - Беларусі !

## ВЯЛІКОДНЯ ДУМКІ

У жыцьці веруючага чалавека няма вялікшае радасьці,як Радасьці Хрыстова Ўваскрашэньня.Ужо на працягу амаль двух тысячаў гадоў,хрысціянін задумоўваецца над цудоўнаю сымволікаю Ўваскрашэньня Хрыстова-крыніцы надзеі і веры ў перамогу дабра над злом.

Гэтая прыгожая сымволіка наглядаецца яшчэ мацней і тым,што сьвята Ўваскрашэньня прыпадае на час прабуджаньня прыроды ад доўгага зімовага сну. Праўда,кожная пара году мая свае асаблівасьці і кожная з іх ёсьць неразлучнаю часткаю тае надпрыроднае гармоніі,якая гаспадарыць у сусьвеце і зьяўляецца пераконваючым доказам існаваньня Вышэйшае Сілы,якая яе стварыла,аднак няма нічога найпрыгажэйшага як вясна, якая найбольш апяваецца песьнярамі кожнага народу.

Уваскрашэньне і веснавая сымволіка дастасоўваецца не толькі да надземнага разумаваньня; яна дапамагае чалавеку ахопліваць усе справы зямныя з вышэйшага пункту гледжаньня вышукваючы ў іх трывалых мамэнтаў; яна адначасна яшчэ мацней зьвязвае людзей з праднazначанак для іх місыяй на гэтай зямлі. Гэта тыя духоўвыя каштоўнасьці, што зьяўляюцца сапраўднаю сутнасьцю жыцьця паасобных адзінак, грамадаў і народаў. А аднэю з найпрыгажэйшых духоўвых прыкметаў людзей ёсьць пачуцьцё любові да Бога , да найбліжэйшае радні, да Бацькаўшчыны,да свайго Роднага Краю.

А ціж умовы жыцьця беларускага грамадзянства паза Бацькаўшчынай не надхняюць тою Ўваскрэсна-весьнянаю сімволікаю ды прыхільнасьцю да ідэалаў волі, хоць яна і праходзіць асабліва цяжкі іспыт,ад таго часу,калі пачаўся ў сьвеці пэрыяд цемры прыгнобленьне найвялікшае Праўды і надпрыродных чалавечых правоў.

Чорная рэакцыя цемры гаспадарыць жа цяпер на вялікіх прасторах Эўропы,Азыі іАфрыкі.жахлівую добу пережывае і наш народ на Бацькаўшчыне пад уладаю беспрыкладнага камуністычнага рэжыму.Найбольшым ліхам ёсьць ня толькі акупацыйны экспэрымэнт,але і стаўленьне да яго вольнага сьвету. Усе тэорыі спаўіснаваньня, якія затручваюць атмасфэру і ўносяць замяшаньне ў гэткія разуменьні,як права чалавека і народу на вольнае жыцьцё на ўсім сьвеце,а не толькі ў аднэй яго часцы, павінны быліб перагледжаны і зьменены.

А дзеля таго[і] сучасныя гістарычныя падзеі павінны быліб ісьці па знакам не толькі намаганьня цемру зьнішчыць,алеі хаос думкаў,якія паўсталі пад беспасрэдным дзеяньнем камунізму, а самыя толькі нейкія новыя тэорыі,дактрыны не выбавяць сьвет і не палепшаць долі людзей.

Вялікдзень і ёсьць тым сьвятам,каторае людзі вітаюць як Дзень збаўленьня ўсяго чалавецтва.Нават найбольшыя цынікі мусяць прызнаць, што без рэлігійнага пачуцьця чалавецтва былоб вельмі бедным і ня былоб таго прыкладнага сямейнага сужыцьця,на якім базуецца кожны гаспадарчы лад і цывілізацыя сьвету.

У раземеньні атэістаў можа гэта быць кепскім,але не сярод людзей веруючых,а нават і паганаў,каторыя гэтак сама маюць свае пагляды і ў нешта верацЬ.

Але для кожнага хрысьціяніна ведама,што Сын Божы прышоў на зямлю,быў укрыжаваны,памёр за ўвесь сьвет і на трэйці дзень уваскрос як было напісана.Уваскрос,зьнішчыў цемру і грэх і гэтак павінен зьнікнуць і прыгнетальнік з нашае зямлі і зазьяць Сьвятло Ўваскрашэньня нашага Народу.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПЫТАНЬНЕ І АБ"ЕДНАНЬНЕ

Пытаньне гэтае складанае, жывое, не церпіць штыўных рамак. Яно хвалюе мільёны людзей, выклікае тысячы спрэчак і сотні інтэрпрэтацыяў. У сучасных абставінах займае яно важнае месца ў дзейнасьці ўсіх народаў, а ў тым ліку і ў нашым беларускім.

Аб нацыянальным пытаньні і аб"еднаньні беларускае эміграцыі пісалася ўжо многа на балонках беларускае прэсы, прысьвечана было шмат вершаў і артыкулаў ды праводзіліся дэбаты на розных сходах і спатканьнях. Аднак справа аб"еднаньня не была гэткаю актуальнаю, як у сучаснасьці.

Даволі толькі сягнуць у недалёкія гістарычныя прыклады, каб уявіць, як канкрэтна асягалася ў паасобных выпадках аб"еднаньне розных групаваньняў і народаў ў цэласьці і што было перашкодаю да гэтага, то зусім будзе зразумелым, што да аб"днаньня зможам дайсьці толькі тагды, як грамадзянства станецца вольным ад уплываў кіраўнікоў існуючых групаваньняў.

Сяньня мы разгледзім толькі ці наагул ёсьць магчымасьць да "касалідацыі" і аб"еднаньня нашых розных груповак, або нават і ўсіх паглядаў кожнага ў паасобку, што стаіць на перашкодзе гэтаму і якая прычына? Ужо не ад сяньня ведама, што ад даўжэйшага часу няпрыхільна а часта нават і варожа да аб"еднаньня ставяцца кіраўнікі двух існуючых груповак і ў першую чарку толькі таму каб не страціць кіраўнічую ролю, якую цяпер выконваюць неглядзячы на супраціў бальшыні. Яны добра разумеюць, што як папярэдняе, гэтак і сучаснае іхняе дзеяньне зусім неадказвае поглядам бальшыні, аднак не пакідаюць сваіх становішчаў і гэтым самым перашкаджаюць ідэялёгічнаму творчаму кірунку беларускае эміграцыі і гэтым устрымліваюць яе далейшыя асягненьні. А ціж гэта не ёсьць перашкодаю да аб"еднаньня, ці не спрычыняецца гэта да застою ў якім абавязкі і імкненьні распачатага змаганьня за ідэалы незалежнасьці загамоўваюцца?

У некаторых ужо лунаюць [illegible] думкі, што да аб"еднаньня ня можна дагаварыцца. У гэтым няма ніякага сакрэту, бо весткі і чын аб гэтым распаўсюджваюцца самымі лідарамі груповак. Але кожнаму ведама і тое, калі яны на працягу двух дзесяткаў гадоў эміграцыйнага жыцьця і дзейнасьці не змаглі дагаварыцца, то ціж можа быць нейкая пэўнасьць каб яны дагаварыліся цяпер. А хто іх зможа змусіць да гэтага?-Ніхто. Але шлях для аб"еднаньня для ўсіх тых, што імкнуцца да яго зусім ёсьць вольны, а таму належыць толькі пакінуць ўсіх тых, што стаяць не перашкодзе да аб"еднаньня і аб"еднывацца самым. Ужо патэнцыял нацыянальнае сьведамасьці нашае эміграцыі нагэтулькі узмоцніўся, што можам сьмела з свайго серадовішча выланіць агульны рэпрэзантацыйны цэнтар без дапамогі і апекі самамянаваных лідараў. Тыя ж, што лічаць ў сучаснасьці аб"еднаньне непатрэбным могуць зьвесьці беларускую ідэю на неправідловы шлях, каб нацыянальнае беларускае пытаньне згубіла ўсялякую вартасьць і актуальнасьць.

Як у кожнага народу ідэя азначае якісьці выразны палітычна-нацыянальны шлях, падтрымованы маральнымі якасьцямі, ськірованымі ў кірунку асягненьня выразнае мэты, то і мы можам не пагадзіцца з тым фактам, што без выразнае собскае развагі і ахвоты, ня можна асягнуць жаданае мэты. Таму самая толькі гутарка пры нейкае аб"еднаньне, без чыну і дзеяньня была б пустаслоўем.

Таму няма патрэбы аналізаваць і займацца перэацэнкае тае працы

і канцэптцыі якое трымаліся і трымаюцца кіраўнікі існуючых абодвых грыповак. Іхняю папярэдняю і сучаснаю мэтаю зьяўляецца займаць кіраўнічыя становішчы для асабістае карысьці і для невыразных мэтаў, а не для агульна-беларускага дабра. А таму ім ня важна, ім не залежыць на колькасьці і якасьці сяброў арганізацыі і не лічацца з лікам апазыцыі, абы займаць у арганізацыях кірпўнічыя становішчы і праводзіць свае мэты. А найбольш важна для іх тое, каб будучы кіраўнікамі, мець доступ да ўрадавых і іншанацыянальных чыннікаў, карыстацца аўтарытэтам ды дастаць субсыдыі.

Гэткі ненармальны стан рэчаў сярод беларускіх выгнанцаў спрычыніўся да таго, што не толькі лік існуючых арганізацыяў павялічыўся новымі сябрамі, а наадварот зьменшыўся, бо бальшыня зраклася сяброўства, ды адыйшоўшы сталася пасыўнаю, або распачала дзеяць самастойн праводзячы нацыянальна ўсьведамляючую працу да аб"еднаньня.

Гэткую працу праводзіць і нашае згуртаваньне. Ужо пачаткі яе п казалі, што ідэяю аб"еднаньня шматлікія захапляюцца. З недаверам адно сяцца толькі тыя, што знаходзяцца пад уплывам г.званых "кіраўнікоў", якія не могуць пагадзіцца з жаданьнем і патрэбамі бальшыні беларускае эміграцыі.

Але жаданьні адзінак не павінны мець уплыву на жаданьні бальшыні і пры тым для агульнага дабра, агульна-нацыянальна беларускага.

Зьнеахвочаньня для дабра Бацькаўшчыны і сьвайго народу быць ня можа. Ня можа быць і адмовы ўчасе перавыбараў заняць тое, або іншае становішча, Кіраўніцтва арганізацыямі можа заняць хто шчыра і ахвярна будзе выконваць занятае становішча, а сучаснае кіраўніцтва можа застацца адзінокім, і праз гэта шлях для жадаючых аб"еднацца адчыніцца, ды зьліквідуюцца перашкоды. Неабходна і пачаткі да кансалідацыі выказаць працаю. Ніхто нікому нічога не дае, а кожнае асягненьне сілаю здабываецца. Таму знаходзьма тых чэсных, працавітых, ахвярных людзей, якія карыстаюцца нашым даверам, дапамагайма ім, працуйма самі і гэта будзе пачаткам нашага аб"еднаньня, нашага чыну і пэўнасьцю на асягненьне мэты.

====================

## С Ь В Я Т Ы Я З А Ф А Т /працяг/

На балонцы 98-99 свае кнігі сп. Пануцэвіч апісвае пра пахавіны цела Язафата якія адбыліся 18/28 студзеня 1624 году г.з.аж праз 14 месяцаў пасьля забойства. З апісаньня вынікае, што Польшча добра парупілася аб тым, каб пахавіны адбыліся з вялікаю "помпаю". Цела напачатку было прывезена з Віцебска ў Полацак. Праз увесь тыдзень перад пахавінамі званілі ў званы. На пахавінах прысутнічалі ўрадоўцы, шляхта і іншыя дастойнікі...Ішлі па загаду студэнты пад кіраўніцтвам езуітаў, ішло польскае духавенство і з імі вуніяцкае. Нясьлі, відавочна для правакацыі, або для выкліканьня ненавісьці да праваслаўных-весь у крыві ілітон і чашу, валасяніцу, шнуры і каменьні, каторыя былі прывязаны каб цела пайшло на дно рэчкі. Страляпі з гарматаў. Па баках 100 жаўнераў у чырвоным адзеньні аружжам аддавалі пашану ....Гэтак хавала ПОльшча свайго шчырага супрацоўніка!

## Сьедства ў справе забойства і тэрор.

Сам аўтар кнігі "сьв. Язафат" піша, на бал. 102, што сьледства было распачата не адміністрацыйнымі ўладамі, а Мітрапалітам Руцкім, які "склікаў біскупаў на нараду, неадкладна паведаміў Папу Урбана VIII, Караля Жыгімонта і Канцлера Льва Сапегу, з просьбай аб пакараньні віноўнікаў."

З літаратуры,што карыстаўся аўтар пішучы кнігу аднак чамусьці не пададзены змест ~~ліста які прыслаў Папа Урбан VIII,польскаму~~ каралю Жыгімонту III,а зьмест яго даволі цікавы,а таму лічым абавязкам тут падаць яго да ведама:Жыгімонту III полькему Каралю,Папа Урбан 8:

"Хто дасьць крыніцу сьлёзаў нашым вочам,каб мы маглі аплакаць жорсткасьць схізматыкаў і сьмерць Полацкага Архіепіскапа! Вот да чаго дайшла лютасьць нячэсьці,якая ня можа задаволіцца плачам нявінных,але задавальняе сваё прагненьне толькі кроўю сьвятароў!

"Сьвяты Архіепіскап,упрыгожаны не толькі Мітраю,але і добрымі справамі,забіты ў уласным палацу грэшным і лютым народам. Тут ясны доказ кары Божай над тым народам! Учынак агідны для вока і жахлівы для вуха.

"Чулі мы,што тое цела,якое было храмам сьв. Духа,па вуліцах места валачылі рукі азьвярэлых,і кжуць,што дыхаючы злосьцю схізматыкі, у разбойніцкі спосаб,з нязвычайнаю,уласьціваю,нялюдзкаю лютасьці агідаю гнусіліся над тым,каму можна думаць,Ангелы плешчачы ў далоні прынесьлі мучаніцкі вянок...

"І так,дзяржаўны Каралю,ты не павінен устрымацца ад мяча і вагню.Няхай ерась /праваслаўе/ пачуе,што лютым злачынцам няма літасьці У гэтым агідным злачыні срогасьць павінна быць заміж міласэдзя.

"І таму няхай Ваша Велькасьць справы не адкладае,але ў запалі пабожнага гневу няхай пацешыцца сьлязьмі паганцаў,пакарае іх за зьневагу рэлігіі.Ваша Велькасьць,якому пераказваем наша апостальскае багаславенства можа верыць нашаму паважанаму брату нунцыю Івану, Епіскапу Ноланскаму,што перадае гэтае нашае даручэньне як ад нас самых."

Дадзена"У Рыме,у сьв. Петра,10 лютага 1624 року, у першым годзе нашага папства" /Пераклад з польскага з VII тому Гісторыі Літаратуры польскай Віснеўскага,бал. 504 Выдавецтва Варшава/ Камэнтары да гэтага гістарычнага ліста быліб лішнімі.

А штож прадпрыняў ~~Кароль? Адразу была вызначана~~ спэцыяльная сьледчая камісыя,якая і занялася праводжаньнем сьледства і пакараньнем западозраных у забойстве. Адразу было арыштавана 90 асоб і падлягалі арышту яшчэ 79,якія паўцякалі.

Суд распачаўся 17 студзеня 1624 году.На судзе,як піша сп. Пануцэвіч"ня толькі ўсе прызналіся да віны самі,але яшчэ прасілі каб іх пакаралі,і што да злачынства іх змусіла не жорсткасьць,а ненавісьць да паяднаньня"./ У бальшавіцкіх судох гэтак сама ўсе асуджаныя прызнаюцца да віны і просяць для сябе яшчэ большае кары/.

" А прысуд быў вельмі "лагодны",бо 19 чалавек былі прысуджаныя на кару сьмерці і па выкананьні прысуду целы іхнія былі ўкінены ў дзьвіну.З 79 уцёкшых ўсе былі прысуджаны на кару сьмерці,а маемасьці іх канфіскаваная.Ад пастановы суда ніякае апэляцыі не магло быць. Засуджаным жанчынам адрэзалі насы вушы і іншыя часткі цела"
/Сьв. Язафат бал. 104-105/

Але найбольшаю ўцехаю для сп. Пануцэвіча магчыма ёсьць тое,што што прысуджаныя перад сьмерцю "выспавядаліся ў вунійных сьвятароў, ды прасілі каб лічылі іх прыналежнымі да вунійнае царквы".Асюль дапушчальна, што аўтар і посьле сьмерці да вуніі нават патопленых далучае,разьмінаючыся нават з дактрынаю Язафата,які загадваў выкопваць целы праваслаўных і аддаваць іх сабакам.

Але засуджаны на сьмерць Полацкі радны Пётра Васілевіч зусім гэраічна прыняў сьмерць,бо калі "кат хацеў адсеч яму галаву,ён бараніўся рукамі,а калі адсек яму адну руку,ён бараніўся другою,а

ікалі, была адсечана другая, потым вушы тады была адсечана галава. /Жыцьцё Иосафата бал. 242/ А ціж гэта не мучаніцкая сьмерць? Ціж Васілевіч адмахваўся гэтак сама і вушамі, калі кат адсек яму вуха?. Тут паўстае пытэньне: калі над радным Васілевічам былі перад сьмерцю праведзеныя гэткія зьдзекі, то як забівалі другіх аўтар не ўспамінае. А можа яны самі падстаўлялі свае голавы пад катаў меч каб хутчэй памерці, калі аўтар піша, што перад сьмерцю нават выспавядаліся ў вунійных сьвятароў? Можа радаваліся, што іх забіваюць, тады іх гэтак сама належалаб залічыць да ліку сьвятых, бож згодна слоў сп. Панунцэвіча яны ўчас споведзі "прасілі лічыць іх прыналежнымі да вунійнае царквы"/Сьв. Язафат бал. 104/, бо яны прымалі сьмерць спакойна як мучанікі.?

Але ўжо з гэтага малога апісаньня жорсткіх мукаў відавочна, якімі маральнымі катамі былі тыя польска-каталіцкія судзі і выканаўцы прысуду, якія апанаваўшы чужую зямельку – так падзікаму мучылі праваслаўных за тое, што яны на сваёй зямлі збаранялі сваю царкву і Праваслаўную веру. Скажам гэта было ў часе сераднявечча перад 300 з лішнім гадамі, алеж сяньня ў веку развою культуры і тэхнікі мы бачым, яшчэ абаронцаў Язафата, якія ня толькі апраўдваюць ягоны поступы, чыны і сыстэм, але цешацца, пішучы рэчы на падобныя тэмы ды сіляцца разеднаць праваслаўных, каб ізноў накінуць ім падняволеньне.

Цешацца і з таго, што спосаб пакараньня праз адразаньня жанчынам рук, носа, вушэй і іншых частак цела не адрозьніваўся ад жорсткі інквізіцыяў, але ні слова не ўспамінаецца аб тым, што напэўна сярод падсудных былі і нявінны, бо напэўна тыя пакараныя жанчыны актыўнага ўдзе ў забойстве не бралі.

Выказваецца аўтарам жаль, што над шматлікімі ўцёкшымі не выканены прысуд, але ні слова няма аб тым, што выдатнейшыя ад прасьлядаваньня ўцекачы для ратаваньня ад сьмерць свайго жыцьця ў значнай меры спрычыніліся да падбою тагачаснае Літоўскае дзяржавы.

А гістарычныя дадзеныя сьветчаць, што ня толькі прасьлядаваліся жыхары Віцебска, толькі за тое, што прымалі ўдзел у забойстве, але прасьледаваньне праваслаўных было агульнае мяноўна: у Віцебску быў зьняты вечавы звон, зьнішчана Усьпенская царква, а рэшта праваслаўных цэркваў пераказана вуніятам, кароль Жыгімонд афіцыяльна забараніў праваслаўную веру ня толькі ў Віцебску, але і ў Полацку, Воршы, Магілёве, Мсьціслаўлю. Каралём быў выдадзены агульны загад каб ўсе прынялі вунію і падпарадкаваліся Полацкаму вунійнаму Архіепіскапу.

Гэтак гаспадарылі чужынцы на нашай адвечнай зямельцы, не спадзяючыся, што кара Божая спадзе і на іх.

/Працяг будзе/

---

## РЭЛІГІЙНЫ АПЯКУН ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ КАТАЛІКОЎ

Пад гэткім загалоўкам у № 84 "Беларуса" зьмешчана паведамленьне аб назначэньні Ватыканам а. Пралата Пятра Татарыновіча апякуном для Беларусаў эмігрантаў лацінскага абраду на месца Яго Эксц. Біскупа Б. Слосканса.

Вестку гэту, калі яна адказвае сапраўднасьці, ня толькі беларусы каталікі, але і праваслаўныя павінны з радасьцю прывітаць і пажадаць дастойнаму Пралату Татарыновічу на ягоным адказным становішчы плённае працы на карысьць беларускага народу і Бацькаўшчыны.

Будзем спадзявацца, што нарэшце Ватыкан зразумее аб дарэмных спробах тварыць ... сьвятарства і нейкую штучную хворму герархі

сярод беларусаў усходняга абраду /вуніятаў/ якіх між беларусаў няма, а таму сучасныя г.з. вунійныя сьвятары калі будуць прызначаны для народу,дзе вуніяты існуюць,то змогуць прынесьці яму карысьць,а беларусы пазбавяцца няладаў.

==========================

## АДЗНАЧАНЬНЕ 46-х УГОДКАЎ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ Ў АМЭРЫЦЫ.

КЛІЎЛЕНД. Беларуская Сыботняя школа пры Парафіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці адзначыла Сакавіковае Сьвята 21 Сакавіка. Праграма ўрачыстасьці была выканана вучнямі самадзейна,а мяноўна: вучань 4-тае клясы Уладзімер Страпко адкрыў акадэмію,Л.Мікуліч-вучаніца 2-е клясы на пьяно адыграла Амэрыканскі нацыянальны гімн,Галіна Кананчук-вучаніца 4-е клясы прачытала рэфарат, А. Радзюк-вучаніца 2-е клясы прадэклямавала верш Алеся Змагара"25-ты Сакавік",Г. Каляда выканала на пьяно амэрыканскую песьню,верш Максіма Багдановіча"На чужыне" прадэклямавала вучаніца першае клясы Ю.Радзюк,беларускія песьні "У гушчарах", "Васількі",,"Люблю наш край на акардыёне выканаў вучань 4-е клясы - Э.Сергеевіч,верш Алеся Змагара "А ці помніш той край" -выканалі супольна вучаніцы 2-е класы,беларускі народны танец "Юрачка" выканалі вучні I-е клясы,верш Алеся Змагара"Здабудзем змаганьнем" прадэклямавалі унісоном вучні 2-е клясы.На заканчэньне вучаніца Л. Мікуліч на пьяно адыграла Беларускі Нацыянальны Гімн. Канфэрансе - вучаніца 4-е клясы Марыя Кэваленко.

На акадэміі апрача вучняў прысутнічалі іхнія бацькі і госьці. Уся праграма была выканана ўдала і арганізацыйна і пакінула ў прысутных добрае ўражаньне.

===============

У нядзелю 29 сакавіка а гадзіне 3.30 у Царкоўнай залі,захадамі мясцовага Аддзелу БАЗА ў Кліўленд,адбылося ўрачыстае адзначаньня 46-х Угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Нар. Рэспублікі. Дзякуючы сьведамасьці і нацыянальнай выробленасьці Беларуская калёнія ў Кліўленд выказала сваю дасьведасьць каб ўшанаваць гэты Вялікі Дзень сваёю прысутнасьцю, а таму заля была перапоўнена.

У праграму Акадэміі ўвайшлі: рэфарат,беларускія нацыянальныя песьні і нацыянальныя танцы. Акадэмія была распачата Амэрыканскім Нацыянальным Гімнам.Рэфарат прачытаў сп. Віктар Лукашэвіч,які вывязаўся з узятага абавязку вельмі добра. Што да зьместу рэфарату,аўтарам якога згодна асьветчаньня Управы Аддзелу,быў пав. доктар Грынкевіч,то зьмест яго быў наступны: уступ агульны,палавіна прысьвечана аб змаганьні Кастуся Каліноўскага і ягоных паўстанцаў,аб гісторыі вызваленьня Ірляндыі,некалькі слоў аб былым чэшскім прэзыдэнце Масарыку,якога быццам бы прэзыдэнтам зрабіла Амэрыка,прыклад усім належыць браць з жыдоў і на заканчэньне напад на бел. грамадзянства ў Кліўленд,што не складаецць ахвяраў на радыё-перадачы ў Мадрыце ды не падпарадкоўваецца кіраўніцтву існуючых арганізацыяў,а аб змаганьні за Незалежнасьць ані слова.

Дзеля гэтага адразу пасьля рэфарату ў прысутных паўстала пытанне,якою аснаўною мэтаю кіраваўся аўтар рэфарату каб на Урачыстасьці Дня Незалежнасьці,заміж гісторыі бел-вызвольнага змаганьня ,чуць гісторыю народу Ірляндзкага і што гэта мая суполнага з Незалежнасьцю Беларусі? Пашто ўплутана пытаньне жыдоўскае,калі яны актыўнага ўдзелу ў змаганьні не прымалі?

Ніхто ня можа адкінуць гераізм і змаганьне Каліноўскага,але ціж усё вызвольна-незалежніцкае змаганьне беларускага народу базавалася толькі на Каліноўскім былаб вельмі беднаю і абнабочнаю наша нацыянальнае і палітычнае змаганьне? А каліб прызнаць гэткі шлях змаганьня правідловым,то трэба не прызнаць,або адкінуць нашых славутых гістарычных герояў як Усеслава Чарадзея,Выдатнейшых князёў Вялікага Княства Літоўскага/Беларускага/, ўсх выдатных змагароў у часе Літоўска-Маскоўскіх войнаў,не ўспамінаць і не прызнаваць гэткіх змагароў як Ніленак,або Лістапад,які на працягу некалькіх гадоў гэтак гераічна змагаўся супроць бальшавікоў ды й на судзе ў Менску меў адвагу назваць бальшвіцкіх судзяў чужынцамі і наймітамі. А Случчакі не Героі Не змагаліся яны за ідэалы Акту Незалежнасьці 25 Сакавіка? А змаганьне ўчасе другое сусьветнае вайны не за незалежнасьць праводзілася? Але аб гэтым ўсім чамусьці ў рэфараце прамоўчана. А таму праслухаўшы ўважна рэфарат,для шматлікіх прысутных сталася яшчэ больш ясным і перакананальным,што патрыятызм і высокалітэрацкія словы аўтара, ідэя і думка зусім разьмінаваліся з ідэаламі 25-га Сакавіка і многім хацелася б паставіць пытаньне "Куды вядзеш"

-Што да мастацкае часткі,яна была на належным узроўні і выканана добра.Былі прачытаны праклямацыі ад мэра гор.Кліўленд і губэрнатара шт.Огайо

==========================

ЧЫКАГО. У Чыкаго ў гэтым годзе беларусы адзначалі Угодкі Акту 25га Сакавіка аж у трох групоўках і розных месцах мяноўна: 22 сакавіка адзначалі ў сваім асяродку т.зв."вуніяты",якія Акт 25 Сакавіка датноўваюць да свае "талеранцыі" і да прыеднаньня беларусаў да Рыму, не забываючыся пра Польшчу.доказам гэтага ёсьць факт,што сп. дзедаў ўчасе свайго выступленьня на ўрачыстасьці выкрыкнуў "Нех жые Польска"!

другая Акадэмія адбылася 29 сакавіка.Арганізатарам урачыстасьці была Управа Парафіі сьв. Юрага ў Чыкаго. У часе малебна прагалошваліся Многалецьця для Экзарха Канстан.Патрыярха і сп. Радаслава Астроўскага,які чытаў рэфарат прысьвечаны дню незалежнасьці.

Трэйцяя акадэмія прысьвечаная Акту 25 Сакавіка ладзілася вернікамі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы супольна з сваім настаяцелям у залі царквы сьв. Троіцы Праваслаўных украінцаў. Тут ня было ніякіх пабочных уплываў,а славілася і праслаўлялася свая Незалежнасьць і воля беларускага народу. Малебен адслужылі а.Грыгоры і а. Прахор,з многалецьцем для Уладыкі Генадзія і Архіепіскапу Васілію ды беларускаму і ўкраінскаму народу.

У праграму акадэміі ўвайшлі:рэфарат і мастацкая частка.

========================

НЬЮ ЁРК. 46-тыя Ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі,Актам 25 Сакавіка 1918 году ў Нью Ёрку былі ўрачыста адсьвяткаваныя супольна ,ужо другі год,усімі беларусамі з Нью Ёрку і ваколіцаў дня 22-га сакавіка.

Дзеля гэтае мэты быў створаны адумысловы Камітэт ў наступным складзе: сп.сп. Д.Клінцэвіч,А.Несьцеровіч і К.Мерляк ад Акруговае Ўправы БАЗА,сп. А.Плескачэўскі,с-ня Л.Брылеўская і сп. В.Пілеса ад Кангрэсовага Камітэту.

Урачыстасьць распачалася Божымі слкжбамі.У Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦарквы ў Нью Ёрку служыў Яговысокапрэасьвяшчэнства Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіепіскап Васілі,а ў Царкве

сьв. Еўфрасініі Полацкай у Соўт Рывэры пратаіерэй а. Мікалай Лапіцкі.

Акадэмія адбывалася ў Астор Гатэль у Нью Ёрку. Распачалася акадэмія а гадзіне 2.30 папаўдні Амэрыканскім і Беларускім нацыянальнымі Гымнамі. Малітву перад пачаткам акадэміі прачытаў протаіерэй а.М.Лапіцкі і гэтая самая малітва была прачытана ім ў Палаце Рэпрэзэнтантаў у Вашынгтоне 26 сакавіка.

Адкрыў акадэмію кароткаю прамоваю і прывітаў гасьцей ад імя Сьвяткавальнага Камітэту сп. К. Мерляк. У сваёй прамове ён зазначыў,што Дзень Незалежнасьці Беларусі павінен аб"ядныў ваць усіх беларусаў і іхніх прыяцялёў у адну вгодную сямью дзеля праводжаньня далейшага змаганьня за вызваленьне Бацькаўшчыны,ды ўшаноўваньня памяці палеглых за ідэал 25-га Сакавіка,а ў гэтым годзе ў спалучаньні з ўшанаваньнем памяці нядаўна забітага прэзыдэнта нашае новае Бацькаўшчыны ЗША. Пасьля гэтых слоў мінутай цішы прысутнымі памяць была ўшанована. Выразіўшы надзею на хуткае вызваленьне Беларускага Народу старшыня акадэміі запрасіў прадстаўнікоў арганізацыяў.Першым выступіў сп. С.Коўш, які прачытаў зьмястоўны рэфарат прысьвечаны дню незалежнасьці ў беларускай мове.Наступна Інж. Васіль Мельяновіч прачытаў рэфарат у мове ангельскай.

Далейшым прамоўцам быў Мр. Джамес О"Біен- паўнамоцнік і асабісты прадстаўнік мэра гораду Нью Ёрк Мр. Робэрт Ф.Вагнэра.Ўсваёй прамове прадстаўнік вітаў беларусаў з днём незалежнасьці,выразіў надзею,што магчыма ў хуткім часе Беларусь будзе вольнай і незалежнай у сямьі ўсіх гаспадарстваў ды запэўніў у падтрымцы вызваленьня беларускага народу.А ў канцы прамовы прачытаў праклямацыю мэра гораду аб абвешчаньні дзень 25 Сакавіка 1964 году "Беларускім Днём Незалежнасьці", ды ўручыў праклямацыю старшыні акадэміі сп. Мерляку.

На месцы тут будзе адзначыць,што гарадзкая Ўправа з гэтае нагоды выдала адмысловы прэсавы камунікат,які быў надрукаваны ў амэрыканскай прэсе ў Нью Ёрку.

Апрача вышэй успрмненай праклямацыі ,дзень 25 сакавіка абвесьціў "Беларускім Днём Незалежнасьці" губэрнатар Штату Нью Ёрк Мр.Нэльсон А.Рокэфільд і губэрнатар Штату Пэнсыльваніяя Мр.В.Скрэнтон. Абедзьве гэтыя праклямацыі прачытаў сп. М. Бахар.

З прывітальнымі прамовамі на акадэміі выступалі шматлікія прысутныя прадстаўнікі прыязных Беларусам народаў мяноўна: Яго Дастойнасьць Г. Франціс Вількэ Д.Д.-Архіепіскап Прымат Сырыйска-Анціахійскае Царквы,Яго Дастойнасьць Рамкрышна Шагу Модак Д.Д.-Старшыня Злучэньня Хрысьціянскіх Цэркваў Усяе Індыі,Старшыня Украінскага Рабочага Саюзу сп. Антон Бацюк,Антэ М.Дозэн-прадстаўнік Харвацкага Нацыянальнага Камітэту,сп. Йозэп Лесаўэр- Старшыня Украінскага Народнага Саюзу і заст.старш. Украінскага Кангрэсовага К-ту, Прадстаўнік Ассамблеі паняволеных народаў Цэнтральнае Эўропы і Старшыня Албанскага Камітэту Вызваленьня сп. Васіль Гэрменній, рэдактар і прадстаўнік старшыні Украінскага Кангрэсовага К-ту сп. Вальтэр Душнік, Інж. Гласкоў ад Казацкага Прадстаўніцтва за Рубежом, атаман Білый ад Казацкага Нацыянальнага Руху.

Апрача вышэйвыменeных прадстаўнікоў на акадэміі прысутнічалі:Люцыен Райчэрцэр - Юнайтэд Амэрыкан Кроатіен, сп. Коін Кондофф заступнік старшыні Баўгарскага Нацыянальнага Фронту, прафэсар Гэорг Накшыдзэ-прадстаўнік Грузінаў, сп. Р.Л. Хомяк - рэдактар Пролог,сп. Данвант Сінг - прадстаўнік ад Індыі, сп. Гордон Вітт - ад Амэрыканскае індустрыі,профэсар Г. Шумоўскі - ад Украінскага Кангрэсовага К-ту,сп. Він

Кузіна - Юнайтэд Амэрыкан Кроатіанс ды шмат іншых.

Былі прачытаны сп. М.Бахарам і надасланыя пісьмовыя прывітаньні ад высокіх амэрыканскіх урадоўцаў ды беларускіх арганізацыяў у вольным сьвеце. З найважнейшых толькі тут адзначым тэлеграму ад санатара Мр. Кэннэтн В.Кэатінг, ад Кангрэсмана Гугн Л. Карэй, які меўся быць прысутным на акадэміі асабіста і прамаўляць, але непрадбачаныя сьпешныя справы былі перашкода гэтаму, і прывітаньне ад мэра гораду Пассік Мр. Паўля Г. Дэмуро.

На заканчэньне афіцыяльнае часткі праграмы была прынята рэзалюцыя, якое зьмест падаём на балонцы 11-тай.

---

МАСТАЦКАЯ ЧАСТКА ЎРАЧЫСТАСЬЦІ распачалася выступам жаночага хору "Каліна" пад кіраўніцтвам кампазытара Ксавэра Барысаўца, які выканаў наступныя песьні: "Ой, ты край мой", музыка Э.Зубковіч, словы М.Кавыля, "Ціхі вечар" муз. Г.Вагнэра, словы А. Русака, "Каля Нёмана", муз.Барысаўца, словы А. Русака, "Явар і Каліна" - муз. Я.Семеняка, словы Я.Купалы, "Цераз сад віноград" народная песьня "Васількі" - муз. Барысаўца, словы Н.Арсеньявай.

Салістка сп. Альжбета Маркоўская, выканала дзьве песьні: "Песьня Алесі" з опэры "Алеся", словы Броўкі, музыка Цікоцкага і "Вясна ў полі" словы М.Гаруна, музыка Э.Зубковіч ды адну песьню на біс.

Сп. Гілл-Ярашэвіч выканала народную песьню "Палыночак", "Месячыку ясны", словы Жылкі муз. Куліковіча і "Зязюля", словы Н.Арсеньявай, муз. Э.Зубковіч, а на біс цудоўна выканала марш "Дэі Ардіті". Акампаніявала салісткам праф.Э.Зубковіч.

Наступным нумарам праграмы ўрачыстасьці было выкананьне дуэтаў і выступленьне мяшанага хору з Соўт Рывэр пад кіраўніцтвам кампазытара Д.Верасава. Увесь склад хору, як і хору жаночага быў апрануты ў вельмі прыгожую новую нацыянальную вопратку, а таму спрычыніў прыгожую рэпрэзантацыю, аб чым было зьмешчана ў газэце "Тэз Нью Уорк Таймс".

У выкананьне мяшанаго хору ўвайшлі наступныя песьні: "Раса" муз. Барысаўца, словы А.Салаўя, "Поле, поле", муз.Верасава словы М.Кавыля, "Разьвівайся сыры дубе" - беларуская народная песьня, "Павей вецяр дарогаю" муз.Галкоўскага, "Вясёлы Майстра" муз.Равенскага, словы А.Кавялеўскага. Учасе паерапынку папаўняла праграму ўсім ведамая салістка сп-ня Р.Касьцюк, якая выканала песьню "Ліст" муз. Д.Верасава, словы М.Сяднёва. На заканчэньне мастацкае часткі быў адсьпяваны Баёвы марш.

Старшыня акадэміі прадставіў прысутнага на ўрачыстасьці Высокапрэасьвяшчэннага Архіепіскапа Беларускае Аўтакефальнаге Праваслаўнае Царквы Уладыку Васілія, які паблагаславіў прысутных, пасьля чаго выказаўшы шчырую падзяку арганізатарам выканаўцам і ўсім прысутным, старшыня закрыў акадэмію.

Назаўтра зьявіўся ў Нью Ёрскай газэце "Тэз Нью Уорк Таймс" артыкул аб адзначаньні беларусамі Дня Незалежнасьці і дамаганьне ўвядзеньне Беларускае мовы ў праграмы "Голасу Амэрыкі"

Сёлятняя супольная акадэмія была добра зарганізаваная, адзначалася асаблівымі патрыятычнымі прамовамі, з прыгожаю на высокім узроўні мастацкаю часткаю, зрабіла вельмі добрае ўражаньне ня толькі сярод беларусаў, але і шматлікіх прысутных прадстаўнікоў амэрыканскіх і іншых нацыянальнасьцяў. Аб умелай арганізоўванасьці акадэміі можа сьведчыць і той факт, што прысутнічала на акадэміі больш 700 асоб.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Ухваленая Задзіночаным Беларуск-Амэрыканскім Камітэтам Сьвяткаваньн 46-тых Угодкаў Беларускае Незалежнае Рэспублікі ,аднагалосна прынятая на Зьезьдзе прысьвечанаму сьвяткаваньню Абвешчаньня Незалежнасьці, які адбыўся дня 22 сакавіка 1964 году ў Астор Готэль у Нью Ерк.

"Дзеля таго,што Беларускі Народ,адзін з шматлікіх ахвяраў Расейска-камуністычнай агрэсіі быў прымусова пазбаўлены свае нацыянальнае суверэннасьці,сваёй рэлігійнай,палітычнай,сацыяльнай,культурнай і эканамічнай свабоды і цяпер церпіць нечалавечае палітычнае прыгнобленьне,тэрор,масавыя дэпартацыі,русыфікацыю,эканамічнае паднявоненьне і каленіяльную эксплёатацыю,і

Дзеля таго, што Беларускі Народ моцна супроцьставіцца чужацкаму паняволеньню і рашуча імкнецца вярнуць сваю свабоду і сувэрэннасьць,каторымі ён карыстаўся ў мінулым на працягу некалькіх стагодзяў,і

Дзеля таго, што ўвага ўсяго сьвету ськівавана на новыя афрыканскія і азыяцкія народы,каторыя былі асвабоджаны ад каляніянізму з дапамогаю Аб"еднаных Нацыяў і далучыліся да грамады свабодных і незалежных дзяржаваў,на няволю беларускага і другіх паняволеных нерасейскіх народаў у СССР зусім не зьвернена ніякая ўвага, і

Дзеля таго,што сучасны ўрад Беларускай ССР і ягоныя прадстаўнікі ў Аб"еднаных Нацыях не зьяўляюцца дэмакратычна назначанымі прадстаўнікамі Беларускага Народу,а ёсьць толькі выканаўцамі волі расейскай каляніяльнай адміністрацыі,а таму і ня могуць і ня будуць абараняць правы Беларускага Народу ,і

Дзеля таго,што нічым неапраўданае пазбаўленьне беларускае мовы ў радыё "Голас Амэрыкі" прывядзе Беларуска-Амэрыканскае грамадзянства да высnаву,што кіраўнічыя чыннікі радыё "Голас Амэрыкі" у Злучаных Гаспадарствах Амэрыкі супроць-ставяцца да прымяненьня прынцыпа самвызначэньня Беларусаў і дзеля гэтага,

Цьвёрда вырашылі, зьвярнуцца з заклікам ад імя Зьезду да Прэзыдэнта, Дзяржаўнага Сакратара і сяброў Кангрэсу Злучаных Гаспадарстваў з просьбаю прадпрыняць усе магчымасьці каб асвабаджэньне Беларусі і другіх паднявоненых дзяржаваў расейскім камунізмам былі ўключаны ў праграму амэрыканскае вонкавае палітыкі, і

Цьвёрда веруючы,што дзяржаўныя чыннікі Злучаных Гаспадарстваў Амэрыкі прымуць належныя крокі праз Аб"еднаныя Нацыі або іншым шляхом спрычыняцца да затрыманьня каляніяльнае савецкае расейскае палітыкі ў Усходняй Эўропе і змусяць камуністаў вывесьці іхнія збройныя сілы з нерасейскіх земляў і правесьці свабодныя выбары ў Беларусі пад наглядам Аб"еднаных Нацыяў,як гэты ўжо і было запрапанавана ў рэзалюцыі, зложанай ў Палату Прадстаўнікоў Кангрэсманам Б. Вільсанам 7 лістапада 1963 г. і

Далей цьвёрда вырашылі,што мы Амэрыканцы беларускага паходжаньня яшчэ раз сцьвярджаем нашу лёяльнасьць Амэрыканскім дэмакратычным прынцыпам дзяржавы і прыракаем нашую падтрымку нашаму Прэзыдэнту і нашаму Кангрэсу, каб дамагчыся сталага міру,свабоды і справядлівасьці ўва ўсім сьвеце і нарэшце,

Цьвёрда выpашылі прасіць Урад Злучаных Гаспадарстваў Амэрыкі скончыць дыскрымінацыю ў адносінах да беларускае мовы ў радыёстанцыі "Голас Амэрыкі", увясьці ў праграму радыёперадачы беларускую мову, якая самавольна ігнаравалася кіраўніцтвам радыёперадачаў на працягу I2 гадоў.

Нью Ёрк,
22 сакавіка I964г.

Ад імя Зьезду
-Канстанцін Мерляк -
Старшыня.

## ХРОНІКА

Сьв.+‡‡‡+ пам.

ДНЯ 9 красавіка I964 году на 76 годзе свайго жыцьця ,адыйшоў на Вечны Супакой Іван Валюкевіч.Чын пахавінаў адбыўся II красавіка ў БАПЦаркве парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд.Пахаваны на магільніку " Бруклін Гаймс". Пакойны быў прыкладным і Богабойным парафіянінам.Для асірочанае жонкі сп. Софіі,сыноў,дачкі і ўнукаў ад імя Царкоўнае Рады гэтым складаем свае спачуваньні. ВЕЧНАЯ ЯМУ ПАМЯЦЬ.

У нядзелю I9 красавіка г.г. стараньнем Царкоўнае Рады парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленд быў зарганізаваны "Пасыйны Дзень". У праграму дня ўвайшлі: I. Зьместоўны рэфарат,апрацаваны на аснове сьв. Пісьма і навуковых досьледаў "Аб жыцьці ,навуцы і цярпеньнях Ісуса Хрыста",які быў прачытаны а. Аляксандрам, 2."Маленьне аб Чашы" гістарычны вобраз малітвы Ісуса Хрыста ў Гэфсіманскім садзі,-памятацку з адказнаю інтанацыяю і пачуцьцём ,выканала сп. Іра Каляда, 3.Супольны Абед,зарганізаваны з інцыятывы і стараньнем сяброўак Царкоўнае Рады К.Каляда і В.Шпэндык ды дапамогаю ахвярных парафіянак,для якіх належыцца шчырая падзяка.

Гэта была першая рэлігійная Вялікапосная імпрэза,якая пакінула добры ўспамін сярод прысутных ,а таму чуліся выказваньні каб падобныя рэфараты адбываліся часьцей.

## АЖЫЎЛЯЕЦЦА ДЗЕЙНАСЬЦЬ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ

Згодна атрыманых рэдакцыяй "Уздыму" вестак з Нью Ёрку,гадавіну зарганізаваньня Беларускіх Вэтэранаў супольна з угодкамі паўстаньня БКА,плянуецца ўрачыста адзначыць 4 ліпеня I964 году. Мейсцам урачыстасьці мая быць Рэсорт"Бэляр Менск". Ідуць захады сярод былых вайскоўцаў у Кліўленд зарганізаваць мясцовы аддзел Беларускіх Вэтэранаў.

У неўзабаве зьявіцца ў прадажы Падручнік для Беларускіх Школаў і Самаадукацыі"Сьвяшчэнная Гісторыя Новага Запавету"- уложаны кандыдатам Багаслоўя Сяргеям Паўловічам. Кніга добра апрацаваная жывою беларускаю моваю з 24 малюнкамі ў тэксте і трапарамі ў славянскай і беларускай мове. Жадаючыя набыць гэтую добрую і карысную кнігу просім зварочвацца па адрысу 35I7 Вэст 25 Стрыт,Кліўленд 9,або пісаць на адрыс рэдакцыі. "Уздыму".

УВАГА!УСІХ АТРЫМОЎВАЮЧЫХ "УЗДЫМ"ПРОСІМ УРЭГУЛЯВАЦЬ ПЕАРПЛАТУ.

Кліўленд:

7-га сакавіка малодшыя сябры ЗБМА ладзілі свой баль. Моладзь з Дэтройту і моладзь з Кліўленду, так як і старэйшыя жывуць вельмі ў бліскім сяброўстве, таму і з Дэтройту прыбыло дзьве машыны, каб разам правесьці вясёла час.

14-га сакавіка група моладзі ў народных строях наведала гарадзкую біблятэку, дзе была выстава беларускага народнага мастацтва. Кіраўнічка біблятэкі зрабіла зь беларускаю моладзяй зьнімку.

15-га сакавіка Аддзел моладзі ладзіў банкет /запісты/ з мастацкімі выступамі й танцамі. Банкет распачаўся малітваю, якую прачытаў а.А. Крыт. Прамаўляў кіраўнік моладзі Ул.Дунец і сп.К.Кіслы. У мастацкай часьці выступалі маладыя акардыяністы Оля Дубаневіч і Эдварды Сергеевіч, якія выканалі некалькі рэчаў паасобку й разам. Актыўная сяброўка моладзі салістка Іра Каляда прасьпявала некалькі песень пад акампаня мэнт акардыяністы Ул.Літвінкі. Сьпявалі і ўсе прысутныя. Пасьля банкету паплылі гукі аркестры "Палесьсе" пад кіраўніцтвам Ул.Літвінкі. Аркестра была папоўнена малодшымі музыкамі. Прыбытак прызначаны на выданьне Гісторыі Беларусі.

12-га красавіка танцавальны гурток моладзі выступаў на міжнародным фэстывалю, які адбыўся ў найбольшай салі гораду "Мюзык Гол". Брала ўдзел 20 нацыянальнасьцяў. Беларуская група выканала два народныя танцы "Мікіту"й"Лявоніху". Танцавала сем пар і падыгрывала трох музыкантаў. Уся група складалася з малодшых. Яны займаюцца рэгулярна й танцуюць вельмі добра ды занялі адно зь лепшых месцаў. Атрымалі шмат запросінаў. Перад выступам было некалькі раз пададзена пра беларусаў у газэтах, а таксама зьмешчана зьнімка беларускіх танцораў.

## Заклік да беларускага грамадзтва.

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе выдала шмат рэчаў, што некаторыя, здавалася, зусім не магчыма з розных прычынаў, асаблі-ва з фінансавых. Дзякуючы падтрымцы нашага паважанага грамадзтва мы перамаглі ўсе цяшкасьці. І яшчэ шмат што выдаём і падрыхтоўваем. Цяпер задумалі выдаць вельмі патрэбную кніжку "Нарыс Гісторыі Беларусі".Гэта кніга мае абыймаць абыймаць гісторыю нашага народу ад прагістарычных часоў аж да сяньняшніх дзён. Аўтарам зяўляецца былы выкладчык беларускае гімназіі ў Нямечыне. Рататарам выдаваць такую кнігу было-б грэшна й сорамна кожнаму Беларусу. Таму зьвяртаемся да Вас,дарагія суродзічы, перасылайце перадплату й ахвяры на наступны адрыс:

Mr K. Kalosha 3517 West 25 St Cleveland 9, Ohio

Хай кожны Беларус, ня гледзячы на яго перакананьне, прыйме ўдзел у гэтай акцыі, а зробім вялікую справу.

Спадзяёмся й моцна верым, што наш заклік будзе прыняты кожным Беларусам, за што наперад шчыра дзякуем.

Кіраўніцтва Аддзелу.

## Беларускі летні лягер у"Менску".

Бацькі Беларусы! Запісвайце ўжо цяпер сваіх дзяцей у летні лягер пры Беларускім Цэнтры Адпачынку "Белэр - Менск. Прымаюцца хлопцы і дзяўчаты ад 7 да 14 год. Кошт: 30 даляраў у тыдзень - зьніжка для сем'яў з больш дзяцьмі. Лягер будзе дзейны на працягу месяца ліпеня /4 тыдні/.

Калі ласка, пішыце на адрыс: Rèsort Belair - Miensk, Inc.
250 E. 4th Street, New York 9, N.Y.
GR 5-4837